


М. ВАСІЛЕНКА

# ЧЫРВОНААРМЕЕЦ У ВЫВЕДЦЫ

СЭКТАР ВАЙСКОВАЙ ЛІТАРАТУРЫ
ДВБ

М. ВАСІЛЕНКА

# ЧЫРВОНААРМЕЕЦ У ВЫВЕДЦЫ

Пераклад з рускай мовы
А. Зіміонка

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
СЭКТАР ВАЙСКОВАЙ ЛІТАРАТУРЫ
МЕНСК 1932

## I. АГУЛЬНАЕ ПАНЯЦЬЦЕ АБ ВЫВЕДЦЫ.

### 1. Выведка праціўніка.

Змагацца з ворагамі лягчэй, калі ведаеш дзе ён знаходзіцца, колькі яго, у якой ступені ён зьяўляецца бояздольным і палітычна ўстойлівым, як узброен і што мерыцца рабіць. Ня ведаючы, дзе праціўнік, можна нанесьці ўдар па пустым месцы і ў той-жа час самому атрымаць удар адтуль, адкуль яго не чакаеш. Ня знаючы, колькі праціўніка і якая ў яго бояздольнасьць і палітычная ўстойлівасьць, рызыкуеш накіраваць супроць яго сіл больш, або, наадварот, менш, чым трэба. А ведаючы, што праціўнік робіць і што мяркуе рабіць, лягчэй зрабіць яму лавушку, лягчэй яго разьбіць.

Спосабы, якія прадпрыймаюцца байцамі і камандаваньнем для атрыманьня ўсіх гэтых

зьвестак аб праціўніку, называюцца *„выведкай праціўніка“*.

## 2. Выведка мясцовасьці.

Бой вясьці лягчэй, калі ведаеш тую мясцовасьць, дзе прыдзецца біцца. „У сваёй хаце і вуглы дапамагаюць“. Ня знаючы-ж мясцовасьці, можна раптам стыкнуцца з перашкодамі, якія цяжка перамагаць без папярэдняй падрыхтоўкі. Зьбіраць зьвесткі аб мясцовасьці, гэта значыць рабіць *„выведку мясцовасьці“*.

## 3. Выведка насельніцтва.

Насельніцтва можа адносіцца да Чырвонай арміі спачувальна, дапамагчы ў баі, у выведцы. Але сярод насельніцтва будуць і клясававарожыя элемэнты, дапамагаючыя ворагу. Апроч таго, запасы гародніны, фуражу, хлеба, якія ёсьць у насельніцтва, палегчаць задачу снабжэньня харчам. Але гэтых запасаў можа і ня быць. Сярод насельніцтва таксама могуць быць захворваньні, якія не дадуць магчымасьці скарыстаць насельныя пункты для начлегу войск. Зьбіраць усе весткі аб насельніцтве і яго адносінах да нас значыць весьці *„выведку насельніцтва“*.

**4. Як праводзіцца выведка.**

Выведку праціўніка, мясцовасьці і насельніцтва можна рабіць:

1. Назіраньнем здалёку.
2. Апытваньнем мясцовых жыхароў.
3. Набліжэньнем да праціўніка або на самой мясцовасьці яго разьмяшчэньня.
4. Боем і захопам палонных.
5. Вывучэньнем дакумантаў (знойдзеных у памяшканьнях, пакінутых праціўнікам, або зьнятых з забітых).
6. Тайнай выведкай ці шпіёнажам.

**5. Хто вядзе выведку.**

Усе віды выведкі (за выключэньнем тайнай ці інакш кажучы агентуры) у асноўным вядуцца выведнымі дазорамі, ад двух чалавек да аддзяленьня, выведнымі партыямі і выведнымі аградамі. Непасрэднымі ўдзельнікамі гэтых выведных органаў, выведчыкамі зьяўляюцца чырвонаармейцы і камандзіры. Адсюль ясна, што ўсе чырвонаармейцы і камандзіры павінны быць падрыхтаваны ў вядзеньні выведкі.

Быць выведчыкам, гэта значыць умець у любы час году, дня і ночы, пры выконваньні любога заданьня, атрымаць такія зьвесткі аб праціўніку, аб мясцовасьці, аб настроях насельніцтва—па магчымасьці ўсё, што дапаможа войскам лягчэй і з меншымі стратамі атрымаць перамогу.

## 2. ЯК ПРАВОДЗІЦЦА НАЗІРАНЬНЕ Ў ВЫВЕДЦЫ.

### 6-7. Як выбраць і заняць месца для назіраньня.

*Лепшым месцам для назіраньня будзе тое, адкуль ты добра бачыш праціўніка, а ён цябе ня бачыць.*

Фабрычная труба, званіца, паасобна стаячае высокае дрэва, адзінокі курган у стэпу, адзінокі будынак у полі—усё гэта такія пункты, адкуль можна назіраць здалёк і бачыць вельмі добра. Аднак ніводзін вопытны выведчык ня выбярэ гэтых пунктаў для назіраньня. Вопытны выведчык знае, што найпершае, на што зьвяртаюць увагу ў часе выведкі і дзе шукаюць праціўніка, гэта—іменна высокія, паасобна разьмешчаныя прадметы. А таму, будучы ў выведцы, *выбірай для назіраньня месцы, якія менш кідаюцца ў вочы.*

Напрыклад, ты рашыў скарыстацца для назіраньня ўзгоркам, парослым высокай травой. Будзе памылкай, калі ты будзеш пасоўвацца туды адкрыта. Вопытны выведчык ніколі гэтага ня зробіць. Ён будзе набліжацца да ўзгорку скрытна, выкарыстоўваючы канавы, лагчыны, хмызьняк. Наблізіўшыся-ж да узгорку, ён для назіраньня ня высуне галаву адразу, а асьцярожна прыкрые яе жменькай травы і будзе сантымэтр за сантымэтрам павольна паднімаць, покуль не атрымае магчымасьці аглядваць мясцовасьць і назіраць праціўніка. Такім чынам, *навучыся скрытна займаць месца, абранае табою для назіраньня за праціўнікам.* Назіраючы-ж за ім, вядзі сябе так, як-бы ты вёў сябе ў тым выпадку, калі-б ведаў, што сотні вачэй праціўніка сочаць за кожным тваім гэстам і сотні вінтовак падсьцерагаюць кожны твой неасьцярожны рух.

Паглядзі на вялікі завод: першае, на што ты зьвернеш увагу, гэта—труба. Зірні на хату: першае, што ты ўбачыш, гэта—комін, хоць ён і ніжэй ад завадзкой трубы.

Чаму-ж гэтыя прадметы найперш кідаюцца ў вочы? А таму, што яны рэзка вырысоў-

ваюцца на фоне неба, у той час, як астатнія нібы зьліваюцца з мясцовасьцю.

Зірні на выведчыка, які, выбраўшы куст для назіраньня за праціўнікам, глядзіць ня з правага боку куста, а зьверху яго. Гэты выведчык сваёй галавой нагадвае комін на хаце, якая вырысоўваецца на фоне неба і таму прыкметна за сотні мэтраў. Цяпер зірні на выведчыка, які, рассунуўшы гальлё куста, глядзіць праз яго, быццам цераз байніцу.




Мал. 1. Правільна. Няправільна.




Мал. 2. Няправільна Правільна.

Такога выведчыка ня выявім, нават падышоўшы да куста за 5 м. (мал. 1).



Мал. 3. Правільна. Няправільна.



Мал. 4. Правільна. Няправільна.



Мал. 5. Правільна. Няправільна.

*Назірай лежучы, ня высоўваючыся. Выглядвай з правага боку куста, купіны або дрэва і толькі ў крайнім выпадку цераз верхавіну закрыцьця* (**мал.** 3-5).

## 8. Як аглядваць мясцовасьць.

Назіраючы за мясцовасьцю, каб выявіць на ёй працiўнiка не перабягай бяз толку па полі вачыма, разьбі яго на палосы і ўважліва, крок за крокам, спачатку справа налева, а потым зьлева направа аглядвай кожную паласу, пачынаючы з бліжэйшай і канчаючы аглядам горызонту (мал. 6).

Добрым прыкладам, паясьняючым карысьць пасьлядоўнага агляду мясцовасьці па палосах і квадратах, зьяўляецца наступны.

Камандзір аддзяленьня рэкомэндуе чырвонаармейцам уважліва паглядзець на яго. Пасьля гэтага ён загадвае ім адвярнуцца, а сам у гэты час робіць прыблізна наступныя дзеяньні: 1) зьмяняе прычоску валасоў, кладзе аловак за вуха; 2) расшпільвае адзін аплік каўнера; 3) пераварачвае знакі ўзнагароды, ордэн або знак за стрэльбу, 4) расшпільвае гузік бакавой кішэні ў гімнасьцёрцы, расслабляе паясны рамень, выцягвае вушка боту і адзявае фуражку казырком назад.

Зрабіўшы гэта, камандзір аддзяленьня паварачвае чырвонаармейцаў і прапануе ім выявіць усе зьмены, якія адбыліся ў яго знадворным



Мал. 6. Пунктырам паказана перамяшчэньне ўзроку назіральніка, а кружкамі абазначаны пункты, на якіх сконцэнтроўваецца ўвага назіральніка.

выглядзе. Як правіла, непрактычныя чырвонаармейцы адразу-ж заўважаць, што фуражка надзета казырком назад, але не заўважаць дзесятка іншых дробных зьмен. Гэта здарыцца таму, што яны ня маюць навыку ў назіраньні. Калі-ж чырвонаармейцам запрапанаваць ня проста глядзець на аддзялькома, але паглядзець добра, пачынаючы з галавы і да пят,—галаву, шыю, грудзі, рукі, ногі і заўважыць, ці ўсё ў парадку, дык чырвонаармейцы заўважаць, што зьмены сапраўды адбыліся і адзначаць якія іменна. Раз-по-раз навык будзе разьвівацца ўсё больш і ў далейшым якія-б зьмены—нават мала прыкметныя—не рабіў той хто вучыць, у сваёй зьнешнасьці, чырвонаармеец адразу ня толькі выявіць іх, але і скажа, у чым яны заключаюцца.

Той хто набывае падобныя навыкі ў клясе, будзе і на вучобе разьвязваць задачы па выведцы; яму трэба толькі напомніць, што мясцовасьць трэба аглядваць таксама ўважліва і ў такой-жа пасьлядоўнасьці ці як гэта рабілася ў клясе пры аглядзе свайго настаўніка: спачатку „галаву"—гэта будзе бліжэйшая ад назіральніка паласа мясцовасьці, абмяжованая справа і зьлева граніцамі сэктару

назірань́ня і ў глыб на 300—400 *м*, потым „шыю і грудзі“—гэта будзе мясцовасьць на 400—800 *м*, ад назіральніка; і нарэшце, „ногі“—гэта ўсё, што відаць далей, як за 800 *м*. Пасьля гэтага той, хто вучыць, або праціўнік могуць як хочуць хітрыць, маскуючы сваю прысутнасьць галінамі дрэў, новымі стажкамі і г. д. Выведчык усёроўна выявіць найдрабнейшыя зьмены ў мясцовасьці: убачыць куст або купіну, там, дзе іх ня было, адразу западозрыць—купіна ці куст зьявіліся неспраста. А калі ўжо такое падазрэньне зьявілася, выведчык падвоіць увагу і ў канцы-канцоў выкрые праціўніка, яго замаскаваны акоп, кулямёт, каманды або назіральны пункт.

## 9. Ваенныя адзнакі і як імі карыстацца ў выведцы.

Вайсковая часьць здалёк заўважна таму, што яна апранута ў асобную форму, узброена і перасоўваецца асобым строем і парадкам. Гэты яе асобы від і зьяўляецца тэй адзнакай, паводле якой выведчык, заўважыўшы ўдалячыні зборышча людзей, можа адразу адзначыць, што гэта такое: вайсковая часьць, ці

проста натоўп мясцовых жыхароў. Такім чынам узбраеньне, вопратка, строй і парадак руху зьяўляецца важнейшымі ваеннымі адзнакамі. Кожная рота, кожны полк маюць паходныя кухні. Гэта таксама адна з важных ваенных адзнак. Напрыклад, выведчык выявіў на ўскраі лесу дзесятак паходных кухань, якія дымяцца, і каля іх ня больш двух дзесяткаў людзей. Гэта адразу-ж дасьць выведчыку магчымасьць зрабіць вывад, што недзе ўпоблізу разьмешчан цэлы полк, для якога кухні і рыхтуюць ежу.

Вайсковая павозка мае ход шырэйшы, чым сялянская цялега. Такі-ж шырокі ход у артылерыі, пасьля якой у дадатак застаецца яшчэ і глыбокая каляіна. Сьляды колаў на зямлі— таксама ваенная адзнака. Выявіўшы на дарозе сьляды цялег з шырокім ходам і глыбокай каляінай, выведчык можа зрабіць вывад, што тут прайшоў вайсковы абоз або артылерыя. Выявіўшы-ж сьляды з вялікай колькасьці ботаў ці капыт, ён можа зрабіць вывад, што па гэтай дарозе прайшла пяхотная часьць, коньніца ці артылерыя.

Вопытны выведчык адзначыць прысутнасьць праціўніка там, дзе ён яго ня бачыў, паводле адных яго адзнак. Паводле адзнак ён устано-

віць, куды і як даўно, нават у якім стане, праціўнік адыходзіць.

Але адзнакамі трэба ўмець карыстацца. Вось прыклад. Бачачы, што да ўзгорку з кустамі ў месцараспалажэньні праціўніка часта пад'яжджаюць паасобныя коньнікі, а часамі і аўтомобілі, нявопытны выведчык зробіць данясеньне, што „выявіў у старане праціўніка чатырох конных і аўтомобіль“. Такое данясеньне зьяўляецца для камандзіра мала цікавым, бо ў праціўніка ня мала конных, ня мала і аўтомобіляў. Вопытны-ж выведчык паведаміць прыблізна так: „Да ўзгорку з кустамі на працягу паўгадзіны з-за ўзвышша з усходу пад'яжджалі ў розны час чатыры конных, а па дарозе ад гаю з поўдня пад'яжджаў аўтомобіль, які цераз пяць мінут паехаў назад“. Адсюль камандзір амаль-што беспамылкова зробіць вывад, што на ўзгорку з кустамі знаходзіцца камандны пункт праціўніка. Хто добра ведае вайсковую справу, той можа па часьцінцы цэлага, паводле ваенных адзнак, вызначыць і ўсё цэлае.

Вось прыклады:

1. Калі, падыходзячы пад вёску або хутар, ня відаць аніводнага чалавека, ня чуеш ніякіх

гукаў, дык будзь уважлівым. Глядзі, ці не зрабіў тут праціўнік засады.

2. Шум, брэх сабак у вёсцы таксама можа служыць адзнакаю прысутнасьці ворага.

3. Крык птушак у лесе можа ўказваць на тое, што там схаваўся праціўнік.

4. Фігуры людзей на званіцах, вежах, дрэвах могуць абазначаць назіральнікаў праціўніка.

5. Бляск штыхоў, кацялкоў, стрэлаў, агенчыкі папярос і запалак, сыгнальныя агні ўказваюць на прысутнасьць ворага.

6. Кастры, іх дым у лесе і вёсцы, дымкі кухань могуць служыць адзнакай прысутнасьці ворага.

7. Попел ад кастра можа ўказаць, як даўно тут быў праціўнік.

8. Па сьлядох людзей, коняй і павозак можна даведацца ня толькі тое, куды прайшоў праціўнік, але і тое, колькі яго і калі ён прайшоў.

9. Воблакі пылу могуць указваць на рух войскаў: калі рухаецца пяхота—пыл сьцелецца нізка і густа; пры тым часта мільгаюць нібы іскры—гэта блішчаць кончыкі штыхоў; калі-ж ідзе коньніца—пыл узьвіваецца слупам. Пыл

ад артылерыі і абозаў паднімаецца нероўнамернымі па вышыні слупамі і не ўяўляе сабою суцэльнага воблака. Аўтомобіль паднімае воблака пылу, якое вельмі шпарка рухаецца.

Звычайна самай нязначнай практыкі даволі для таго, каб па воблаку пылу азначыць хто яго падняў. Праўда, могуць быць і памылкі. Статак жывёлы можа таксама ўзьняць воблак пылу і зблытаць выведчыка. Але вопытны выведчык, супастаўляючы рад іншых адзнак, можа высьвятліць ісьціну. Апроч пылу, вайсковую часьць у часе яе руху і нават склад войскаў можа выявіць і гук.



У часе руху колёны пяхоты нават здалёк чуваць роўны, глухі шум, сярод якога ясна выдзяляецца тарарахканьне павозкі; рух коньніцы пазнаецца па цоканьню капыт; пры руху артылерыі здалёк чуваць рэзкі цяжкі грукат і ляск жалеза; рух аўтомобіляў і танкаў пазнаецца па шуме мотораў. Гук ад хадзьбы людзей чуваць лепш, калі прылажыць вуха да зямлі або каля дротавай загароды.

Гук рухаецца са скорасьцю 336 *м* у сэкунду, сьвятло перадаецца амаль што момэнтальна. Знаючы гэта, выведчык па ўспышцы стрэлаў можа ўказаць ня толькі тое, адкуль праціўнік

страляе, але і тое, на якой адлегласьці ён знаходзіцца. Для гэтага даволі падлічыць колькі сэкунд прайшло ад моманту ўспышкі і стрэлу да моманту, калі раздасца гук стрэлу. Памножыўшы 336 на колькасьць сэкунд, выведчык атрымае ў мэтрах адлегласьць ад сябе да таго пункту, адкуль праціўнік страляе.

## III. ЯК ДЗЕЙНІЧАЕ БАЕЦ У ВЫВЕДЦЫ

### 10. Як адзявацца выведчыку, ідучы ў выведку.

1. Атрымаўшы прызначэньне ў выведку, пакінь лішнія рэчы, у тым ліку *ўсякія дакуманты, лісты, запісныя кніжкі і г. д., апраніся ў адзежу лёгкую*, зручную для руху і *па-колеры адпавядаючую мясцовасьці*, па якой табе прыдзецца дзейнічаць.

2. Знаражэньне дапасуй так, каб яно не целяпалася, не перашкаджала рухацца і ня бразгала.

3. Пастарайся, каб ні на табе, ні на таварышох ня было рэчаў, якія-б бляскам і адлюстроўваньнем праменьняў сонца маглі дапамагчы праціўніку выявіць выведку.

4. Калі накіроўваешся ў шынэлі, спраўдзь, ці ёсьць аплікі для прышпільваньня полаў шынэлі да пояса,—гэта дапаможа ў выведцы рухацца бяз шуму.

5. Закапці перад выведкай штык, каб ён сваім бляскам ня выявіў цябе.

6. Правер колькі ў цябе патронаў і вазьмі іх поўны запас—разьлічваць на паднос патронаў з тылу выведчыку цяжка, а сустрэчу з ворагам ён павінен мець на ўвазе заўсёды.

7. Вазьмі недатыкальны запас харчу і беражы яго.

Добра, калі чырвонаармеец, накіроўваючыся ў выведку, будзе мець пры сабе бінокль, гадзіньнік, аловак, палявую кніжку выведчыка, а ўночы компас. Бінокль дапамагае назіраньню ня толькі днём, а і ўначы, а компас для выведчыка—лепшы памочнік і праваднік.

Кожны чырвонаармеец павінен умець карыстацца біноклем і компасам, інакш ён ня здолее быць выведчыкам.

## 11. Як вызначыць шлях руху.

Задачу і кірунак указвае выведчыку начальнік выведнага дазору. Але на мясцовасьці ўжо сам выведчык удакладняе шлях свайго

руху. Ён намячае сабе загадзя месца перадышак, пункты назіраньня і спосабы перасоўваньня ў прамежках між імі.

1. *Намячаючы сябе шлях руху, дзейнічай так, як дзейнічаеш у тым выпадку, калі ведаеш напэўна, што знаходзішся пад назіраньнем праціўніка, які падсьцерагае, або рыхтуе табе засаду.*

2. Памятай, што ў выведцы дораг час і, не забываючы мер асьцярожнасьці, рухайся заўсёды з тэй-жа хуткасьцю, якая табе будзе ўказана начальнікам.

3. Удзень лепш рухацца па лагчынах, хмызьняках, уздоўж платоў і тыноў.

4. Зьбіраючыся перасунуцца з аднаго назіральнага пункту на другі, загадзя адзнач больш небясьпечныя месцы, дзе магчыма засада праціўніка, і прадумай, як лягчэй і бясьпечней прайсьці гэтыя месцы і ашукаць пільнасьць праціўніка.

5. Намеціўшы шлях руху, вызнач сабе таксама і месцы прыпынкаў для перадышкі, прамежкавыя пункты для назіраньня і месцы, дзе, паводле умоў мясцовасьці, табе прыдзецца рухацца крокам ва ўвесь рост, дзе бежкі і прыгнуўшыся і дзе перапаўзаць (адкрытыя



Мал. 7........ Пунктырам паказан шлях руху выведчыка ад аднаго назіральнага пункту да другога.

ўзгоркі, зарослыя травой, якая прыкрывае чалавека пры перапоўзваньні).

*Умеючы скарыстоўваць мясцовасьць, заўсёды і ўсюду знойдзеш скрытны доступ, прыкрыцьцё для перадышкі і назіраньня.* Аднак толькі працяжная практыка дае табе ўменьне выбіраць захованы шлях руху,—практыкуйся ў гэтым на полі, на занятках; на паходзе або на прагулцы, убачыўшы які-небудзь мясцовы прыкметны прадмет, прабуй вырашыць, якбы ты падабраўся да яго незаўважна; практыкуйся ў няпрыкметным набліжэньні да птушкі, зьверху,—адно такое ўдачна выкананае практыкаваньне дасьць больш, чым дзесяць клясных заняткаў.

**12. Як застацца незаўважаным пры набліжэньні да праціўніка.**

1. Не выстаўляй на паказ бліскучых частак узброеньня.

2. Разьмяшчаючыся ў пэўным пункце сачы за тым, каб вопратка не адзначалася ад колеру мясцовасьці. Калі яна рэзка адзначаецца, дык лепш прыкрый часткі вопраткі, бачныя ворагу, травой, галінамі і тое самае зрабі і з галавою.

3. Калі дрэвы або хмызьняк рэдкія, то карыстайся маскіровачным халатам.

Усе гэтыя способы дапамогуць табе застацца незаўважаным нават і поблізу праціўніка. Але гэтага мала. Выведчыку належыць знаць, якія меры перасьцярогі трэба ўжываць у часе руху.

**13. Якія меры перасьцярогі выведчык павінен захоўваць у часе руху пры выведцы.**

1. Найлепш выбірай шлях руху ў баку ад дарогі.

2. Рухаючыся па дарозе, ня трымайся сярэдзіны яе—сярэдзіна найбольш назіраецца праціўнікам.

3. Калі па бакох дарогі ёсьць канава, карыстайся ёю для руху і для прыкрыцьця ў часе прыпынкаў (мал. 8.).

4. Калі дарога абсаджана дрэвамі (мал. 9), рухайся пад іх цяньком, а ў часе прыпынкаў хавайся за ствалы дрэў.

5. У часе руху і прыпынкаў ўнікай такіх месц, дзе вопратка выведчыка будзе адзначацца асабліва рэзка (ахоўная вопратка—на чорнай зямлі або на сьнягу).



Мал. 8. Правільна. Няправільна.



Мал. 9. Правільна. Няправільна.

6. Зьбіраючыся зьмяніць пункт назіраньня, не выстаўляйся напаказ, каб ня выкрыць праціўніку передчасна сваіх намераў.

## 14. Як у часе выведкі пераходзіць вышыні.

Калі выведчыку ў часе руху прыходзіцца пераходзіць рад вышынь, на аднэй з якіх можна натыкнуцца на засаду праціўніка, трэба рухацца наступным чынам: падняцца на грэбень першай вышыні, прыкрыцца і, уважліва агледзеўшыся, паназіраць за мясцовасьцю перад сабою, шукаючы засаду.

Калі ня ўдасца дакладна высьветліць занята праціўнікам наступная вышыня ці не, лепш рашыць, што праціўнік там ёсьць, і ў далейшым дзейнічаць так, каб гэтага праціўніка ашукаць. Рухаючыся скрытна, набліжаючыся да падножжа наступнай вышыні, трэба шпарка адбегчы ў бок на некалькі дзясяткаў і нават соцень крокаў і пасьля гэтага падняцца на верх. Калі праціўнік знаходзіцца за вышынёю і, заўважыўшы выведчыка, падрыхтаваў для яго лазушку, то, зьмяніўшы кірунак, выведчык ашукаў праціўніка і тым ураўняў шансы пры сутычцы.

## 15. Як рухацца лесам.

Праходзячы праз лес, прасекаю, трэба перапаўзаць палянкі—мінуючы абходам ці таксама перапаўзаць. Трэба ўхіляцца руху па лясной дарозе і пасоўвацца на некаторай адлегласьці ад яе.



Мал. 10. Орыентоўкі паводле высокіх прадметаў.

Рухацца лесам трэба як мага цішэй, уважліва прыслухоўвацца да ўсякага гуку, стуку, шолаху лісьця і г. д.

Выходзіць з лесу трэба хаваючыся за ствалы дрэў або ў кустох, на ўскрай выпаўзьці і, агледзеўшыся, падымацца павольна і асьцярожна.

## 16. Як унікнуць блуканьня ў выведцы.

Выведчыку і выведным дазорам найчасьцей прыходзіцца працаваць без камандзіраў і пры тым ўначы, калі і ўдзень, дык без дарогі і ў дадатак на перасечанай мясцовасьці, а то і ў лесе. Кожнаму-ж добра вядома, як лёгка заблудзіцца ў лесе або ў начы.

Але выведчыку нельга блудзіць. Заблудзіцца выведчыку—гэта значыць у лепшым выпадку не здабыць патрэбных зьвестак і ня выканаць сваёй задачы, а ў горшым—трапіць у рукі праціўніка. Каб ня прышлося блудзіць, выведчык павінен умець „арыентавацца", інакш кажучы ён павінен умець у любы час азначыць, дзе ён знаходзіцца і ў якім кірунку рухацца далей.

А як-жа ўмець орыентавацца?

Самы лепшы і найбольш дакладны спосаб для азначэньня кірунку руху—гэта компас. Кожны выведчык павінен навучыцца азначаць старонкі сьвету па компасу, азначаць „азімут" на пэўны прадмет і ўмець рухацца ў кірунку гэтага „азімуту".

Маючы компас у руках і дапамогу з боку камандзіра, кожны чырвонаармеец навучыцца

карыстацца компасам за 1—2 гадзіны і ўсяк гэтаму павінен навучыцца.

Захаваць правільны кірунак руху і палегчыць задачу звароту выведчыка назад дапамагаюць выразьліва бачныя здалёк прадметы (званіца, фабрычная труба, паасобнае дрэва і г. д.). Гэта асабліва важна ўначы (мал. 10).

Ня маючы-ж компаса, можна азначыць старонкі сьвету (азначаць і праверыць правільнасьць кірунку свайго руху) *па сонцы, па гадзіньніку, па зорках, па дрэвах і па каменьнях.*

У палове дня сонца знаходзіцца на поўдні. Стаўшы тварам да сонца ў поўдзень, мы будзем мець з правага боку—захад, з левага—усход, а павярнуўшыся навакол будзем глядзець проста на поўнач. У любы час дня, бачачы сонца, можна прыблізна сказаць, дзе поўдзень, дзе захад, усход і поўнач.

Вельмі дакладна азначыць старонкі сьвету можна па сонцы, маючы ў руках гадзіньнік.

Як гэта зрабіць?

Гадзіньнік кладзецца на зямлю і перасоўваецца да таго часу, покуль гадзінная стрэлка ня будзе глядзець проста на сонца. У гэтым выпадку поўдзень пакажа лінія, праведзеная

ад восі гадзіннай стрэлкі на цыфру, якая стаіць паміж 12 і гадзіннай стрэлкай (а 12-ай гадзіне поўдзень будзе там, дзе цыфра 2, а 10-ай —на поўдзень будзе паказваць цыфра 11, а 6-ай яго пакажа цыфра 9), а 16-ай поўдзень будзе там, куды пакажа цыфра 2 (мал. 11).



Мал. 11. Азначэньне старонак сьвету па гадзіньніку і сонцы

На поўначы заўсёды знаходзіцца палярная зорка. Уначы, стаўшы тварам да яе і выцягнуўшы рукі ў бакі, левай—пакажаш на захад, а правай—на ўсход. Павярнуўшыся-ж навакол, будзеш глядзець проста на поўдзень (мал. 12).

У пахмурную пагоду, калі сонца і зорак ня відаць, старонкі сьвету можна азначыць паводле іншых адзнак: ствалы буйных, упасобку стоячых дрэў з паўночнага боку пакрыты мохам. У тых-жа самых дрэў галіны цягнуцца больш на поўдзень (мал. 13). Камяні і ствалы дрэў з паўночнага боку так-




Мал. 12. Орыентоўка па зорках.




Мал. 13. Орыентоўка па дрэвах.

сама пакрыты мохам. Царквы будуюцца алтарам на ўсход, а касьцёлы—на захад.

Атрымаўшы задачу, выведчык адзначае па компасе „азімут“ паводле якога належыць рухацца.

Маючы ў руках компас і не забываючыся глядзець на яго, выведчык ніколі не саб'еццa з дарогі ні ў часе руху ў бок праціўніка ні вяртаючыся назад. Калі-ж компаса няма дык выведчык адзначае, у які бок яму трэба рухацца паводле старонак сьвету (захад, усход, поўдзень, поўднёвы ўсход і г. д.)., Зьбіўшыся з дарогі, выведчык адзначае, дзе поўдзень, поўнач і г. д. і, знаходзячы правільны кірунак зноў, выпраўляе сваю памылку.

Вялікую дапамогу выведчыку аказваюць высокія і добра прыкметныя прадметы (званіцы, труба заводу, паасобныя вялікія дрэвы, курган і г. д.).

## 17. Як вядзецца выведка ў ночы.

Уначы праціўнік пільна сочыць за ўсімі дарогамі і сьцежкамі. Выведчыку трэба рухацца ўначы не па дарозе і ўмець ня зьбівацца вызначанага кірунку.

Уначы трэба ўмець скарыстоўваць для прыкрыцьця цені ад дрэў, хмызьняку, будынкаў і г. д. Па магчымасьці належыць рухацца нізінамі, бо тут выведчык трапляе ў больш цёмныя месцы, а праціўнік пры сваім набліжэньні да яго вырысоўваецца на лініі горызонту або абрысоўваецца на фоне мясцовасьці (мал. 14).

У ночную пору вочы—дрэнны памочнік для выведчыка, трэба больш пакладацца на слух. Калі-б выведчык ні прыпыняўся, ён павінен глядзець і слухаць.

У начной выведцы асабліва трэба старацца рухацца бяз шуму; а каб унікнуць спатыканьня і шолаху травы, лепш за ўсё падымаць ногі вышэй і ступаць магчыма цішэй на пятку.

На мяккім грунце выведчык спачатку становіцца на пятку, а потым на ўсю ступню (мал. 15)

На цьвёрдым грунце ўперад ставіцца насок, а потым плаўна спускаецца абсац. (мал. 16).

Калі выведчык уначы западозрыў, што насустрач яму рухаецца праціўнік, ён павінен легчы, прыпаўшы да зямлі, і заціхнуць у гэтым палажэньні покуль ня высьветліць руху праціўніка. Выведчык праціўніка на-



Мал. 14........ Пунктырам паказан шлях руху выведчыка ўначы.

пэўна выкрые ўкрытага ворага, хоць-бы ён прайшоў і побач з ім.



Мал. 15.



Мал. 16.

Бегчы ўначы ня трэба. Ня трэба таксама пераскокваць цераз канавы, платы, загарожы. Трэба пераходзіць або перапаўзаць цераз іх таму, што ўначы ўсякі шум чуваць мацней, чым у ўдзень. Уначы пешы выведчык мае

больш выгад, чым конны. Уначы конь пачынае нэрвавацць і робіць шум, які можа выявіць выведчыка.

Чханьне, кашаль таксама могуць выдаць выведчыка. Чханьне можна папярэдзіць, калі сьціснуць пальцамі пераносіцу. Кашаль-жа часамі папярэджваецца лёгкім націскам на адамава яблыка, інакш кажучы на кадык.

Нэрвовых выведчыкаў лепш ня мець, а прастуджаных і кашляючых у выведку найлепш ня браць.

Ня курыць: у цёмную ноч успышка запаленай запалкі відаць ледзь не на кілёмэтр, а агенчык папяросы—на $^1/_3$ км.

Выведчыку нярэдка прыходзіцца ўначы стыкацца з дротавымі загародамі.

Каб пераступіць уначы цераз дрот, выведчыку трэба нагнуцца настолькі нізка, каб бачыць рады дроту. Потым, захапіўшы рукою першы рад, ён другою рукой намацвае другі рад і разам з тым месца, куды паставіць нагу, не закранаючы дроту і прымацаванных да яе ў мэтах шуму бляшанак і г. д.

Можна таксама перапаўзьці пад дротам тварам уверх, падымаючы рукамі ніжнія рады дроту.

## 18. Якімі сыгналамі карыстаюцца выведчыкі.

У выведцы трэба ўмець, як удзень, так і ўначы асабліва, абыходзіцца без перагавар-ваньняў і каманд, замяняючы іх сыгналамі. Удзень дазоры падаюць сыгналы рукамі або голасам. Уначы-ж сыгналаў рукою ня відаць, гутарка і шэпт выкрываюць праціўніку прысутнасьць выведчыкаў. А таму сыгналы ўначы павінны быць падобнымі на самыя звычайныя начныя гукі.

Могуць быць ужыты наступныя спосабы гукавой сыгналізацыі:

Гукі ад трэньня зубцамі грэбеня аб прыклад вінтоўкі.

Гук ад пастукваньня алоўкам або кусочкам сухой галінкі аб зубы, гук ад паціраньня далоньню.

Гук ад папстрыкваньня ногцем аб карабок запалак.

Гук, які атрымліваецца, калі дзьмуць у пустую патронную гільзу. Гук ад паціраньня далоньню ўздоўж штаноў.

Можна ўжываць перайманьне птушынага крыку і зыканьня казюлек.

Які-б ня быў гук, ён павінен быць аднoль-

кава чуцён выведчыкам-суседзям і, галоўнае, быць для іх зразумелым.

Для гэтага трэба загадзя ўмовіцца, які сыгнал і што абазначае.

Сыгналы могуць падавацца для спыненьня руху, для працягваньня яго, для праверкі, ці ўсе выведчыкі выконваюць свае заданьні, для папярэджаньня аб небясьпецы, для атакі, для адыходу і г. д.

У часе рукапашнай схваткі ўмоўнае слова або лічба паможа адрозьніць свайго ад праціўніка (напрыклад „зноў"). Слова „свой" самае няўдалае, бо праціўнік ім таксама часта карыстаецца.

## IV. ВЫВЕДКА ДАРОГ, РЭК, ЛЯСОЎ НАСЕЛЬНЫХ ПУНКТАЎ І ПОЗЫЦЫЙ ПРАЦІЎНІКА

### А- ВЫВЕДКА ДАРОГ.

### 19. навошта і як праводзіцца выведка дарог.

У ваенны час дарога можа служыць для руху сваіх войскаў і войскаў праціўніка. Па дарозе могуць рухацца пяхота, коньніца, артылёрыя, аўтамабілі, танкі.

На вайне войскі будуць рухацца ня толькі па дарозе, але і з бакоў яе. На паходзе войскі шукаюць звычайна прыкрыцьця ад назіраньня авіяцыі.

Ня ўсякая дарога задавальняе ўсім патрабаваньням,

Не па ўсякай дарозе могуць рухацца розныя войскі.

Некаторыя патрэбныя зьвесткі аб дарозе камандзір можа ведаць па карце (кірунак, спускі, пад'ёмы). Другія зьвесткі ён можа атрымаць з апісаньняў дарог. Гэтага мала. Дождж, войска пры пераходзе і сам праціўнік могуць прывесьці дарогу ў такі стан, што будзе лягчэй пралажыць новую дарогу, чым папravіць сапсаваную. Гэтага ні карта, ні апісаньне прадугледзець, зразумела, ня могуць. Зьвесткі аб гэтым камандзір атрымае толькі шляхам выведкі дарог.

Выведка дарог робіцца або шляхам апытваньня мясцовых жыхароў або, яшчэ, лепш, самімі выведчыкамі непасрэдна—калі праціўнік гэтаму не перашкодзіць.

Кожны чырвонаармеец можа атрымаць задачу па выведцы дарог і павінен умець яе выканаць.

**26. На якія пытаньні выведчыкі дарогі павінен даць адказы.**

1. Шырыня дарогі (колькі мэтраў або колькі радоў павозак і людзей могуць рухацца ў рад).

2. Грунт дарогі ( гліна, пясок, сыпучы пясок чорназем, гразь, брук).

3. Магчымасьць руху пяхоты і абозаў па бакох дарогі (ці не перашкаджаюць дрэвы, канавы, балота і г. д.)

4. Ці ёсьць з бакоў дарогі дрэвы, дапамагаючыя маскіроўцы войскаў?

5. Ці ёсьць з бакоў дарогі канавы і равы, якія перашкаджаюць сыйсьці з яе ў выпадку патрэбы (налёт авіяцыі і г. д.)?

6. Дзе ёсьць масты (драўляныя і каменныя); ці могуць прайсьці па гэтых мастох абозы, артылерыя, аўтомобілі, танкі (трэба мець на ўвазе, што калі па мосьце пройдзе гружаная сенам сялянская цялега (арба), дык там пройдзе і артылерыя і аўтомобілі)?

7. Дзе ёсьць цяжкія мясьціны, якія пры руху па дарозе нельга абмінуць (масты, гаці)?

8. Дзе зручна зрабіць па дарозе загароды (завалы, фугасы, псаваць масты і да т. п.)?

9. Дзе ёсьць месцы, заражоныя газамі?

Атрымаўшы заданьне на выведку дарогі, падкрэсьлі тыя пытаньні, якія ўказаў камандзір, адзнач на карце шлях руху або папрасі яго даць схэму руху з указаньнем тых населеных пунктаў, цераз якія дарога праходзіць.

Навучыся рабіць выведку дарог яшчэ ў мірны час. Кожны дзень ты ходзіш на заняткі і з заняткаў па дарозе,—карыстайся гэтым, гледзячы кожны раз на дарогу вачыма выведчыка або адказваючы на запытаньні, паданыя вышэй.

## Б. ВЫВЕДКА РАКІ.

### 21. На якія пытаньні павінен даць адказ баец у часе выведкі ракі.

Рака можа ўзмацняць нашу абарону, прыкрываючы войскі, якія абараняюцца, ад танкаў і ўтвараючы цяжкасьці для наступаючых войскаў праціўніка. Але рака можа таксама і перашкаджаць нашаму маршу, нашаму наступленьню, прыкрываючы позыцыі праціўніка.

Ва ўсіх гэтых выпадках ад выведчыкаў патрабуюцца адказы на наступныя пытаньні:

1. Шырыня ракі.

2. Глыбіня.

3. Быстрыня плыні.

4. Якое дно: (пясчанае, глiністае).

5. Якія берагі: закрытыя ці адкрытыя (пакатыя, абрывістыя).

6. Дзе ёсьць масты, броды, паромы?

7. Разьмер мосту, вышыня яго і трываласьць.

8. Глыбіня бродаў і якое ў іх дно.

9. Якія дарогі вядуць да ракі і ступень іх праходнасьці для коньніцы, абозаў, артылерыі, аўтомобіляў?

10. Магчымасьць пераправы абозаў, аўтомобіляў, асабліва танкаў па-за мостам (рэчку, глыбінёю больш мэтру, асабліва пры глеістым дне і балотных берагох, ня могуць прайсьці ні аўтомобілі, ні танкі або танкеткі).

11. Шырыня даліны ракі: ці дасьць яна прыкрыцьце ад агня і кулямётаў.

12. Месцы на рацэ і ў даліне ракі, дзе найлепш паставіць загароды.

Здабываць гэтыя зьвесткі пра раку можна:

1) асабістым назіраньнем,

2) апытваньнем мясцовых жыхароў;

3) асабістым аглядам.

## 22. Як выведаць раку назіраньнем.

Выведка назіраньнем робіцца тады, калі праціўнік перашкаджае агляду ракі нашых выведчыкаў, а мясцовых жыхароў, якія ведаюць раку, не ўдасца знайсьці або іх указаньням цяжка верыць.

Для назіраньня трэба заняць такое месца, адкуль раку можна бачыць як мага больш. Выведчык займае гэта месца, цярпліва чакае і назірае за ўсім, што адбываецца на рацэ.

Ён можа ўбачыць месцы: і дзе перапраўляюцца коньнікі праціўніка, дзе праяжджаюць яго падводы і аўтомобілі, дзе ёсьць масты, па якіх ніхто ня ходзіць (адзнака таго, што мост сапсаваны або мясцовасьць заражона атрутнымі матэрыямі).

Далей ён можа высьвятліць месцы бродаў, заўважыўшы пераправу жывёлы. Броды ён таксама можа выявіць, прасачыўшы кірунак дарог і сьцежак да ракі і ад яе.

Дарогі і сьцежкі па даліне ракі пакажуць выведчыку ступень праходнасьці даліны. Жывёла, якая пасецца на лугу або на балоце, пакажа ступень праходнасьці лугу або балота.

## 23. Выведка ракі асабістым аглядам.

Выведку ракі асабістым аглядам могуць рабіць паасобны выведчык, выведчы дазор або выведная група.

Глыбіня ракі і характар дна будуць яснымі, калі яе вымераць калом або пераходам уброд. Шырыня ракі вымяраецца на-вока або прамерам, калі гэта магчыма.

Кінуўшы ў ваду трэску і палічыўшы, за колькі сэкунд яна праплыве 10 м., выведчык атрымае адказ аб быстрыні плыні.

Асабістым аглядам берагу ракі высьвятляюцца і броды. Выбітая трава, сьляды жывёлы і асабліва павозак каля вады—усё гэта адзнакі броду. Выяўлены брод трэба абавязкова праверыць, перайшоўшы па ім да другога берагу.

Вывучаючы даліну ракі, трэба зьвярнуць увагу на рытвіны, выемкі, прамоіны, хмызьнякі на беразе—усё гэта дапамагае маскіроўцы войска.

Зручнымі для загарод месцамі можна лічыць тыя, якія цяжка абмінуць (пад'езд да мастоў і бродаў, самыя броды, гаці і г. д.)

Ня трэба падыходзіць да ракі ўсім дазорам, калі тут можна чакаць сустрэчы з праціўнікам. У такім выпадку лепш з далёк пастарацца высьвятліць, занята рака праціўнікам, ці не. Калі праціўніка ня відаць, трэба пераправіцца.

Пры пераходзе дазору цераз раку ўперад пераходзіць адзін выведчык (калі трэба, то і ўплаў). Астатнія разьмяшчаюцца ў захаваным месцы, гатовыя абараняць яго агнём (мал. 17).

Перайшоўшы раку, выведчык абсьледуе бераг і дае сыгнал „бясьпечна". Пасьля гэтага ўвесь дазор, прыкрываючыся наз̇раньнем першага выведчыка, пераходзіць раку.

Калі трэба пераплываць раку або возера ўпоблізу праціўніка, трэба з палак або з пучкоў травы зрабіць плыток і павольна выплыць пад яго прыкрыцьцём з захаванага месца. Плёскаць, пераплываючы раку ня можна,— трэба, каб плыток меў такі выгляд, нібы гэта плыве куст і да т. п.

Калі выведчык плыве з вінтоўкай, то трэба трымаць яе аднэй рукой, а другою рукою грабсьці, памагаючы сабе нагамі (як лягушка).



Мал. 17. Пераход дазору праз раку.

## 24. Як атрымаць практыку ў выведцы рэк.

Мала такіх лягераў, дзе-б ня было ракі, возера або сажалкі. Яшчэ менш такіх чырвонаармейцаў, якія-б маючы перад вачыма рэчку ня купаліся па некалькі разоў на дзень.

Купаньне—справа карысная. Але яно будзе яшчэ больш карысным калі кожны чырвонаармеец, накіроўваючыся купацца, уявіць сябе

выведчыкам, ад якога пасьля яго звароту з купаньня запатрабуецца адказ на 10 пытаньняў указаных § 21. Калі аб рэзультаце такой „выведкі“ далажыць на словах або пісьмова свайму камандзіру, які адзначыць, што выведчыкі зрабілі правільна, а што прапусьцілі дык будзе вельмі добра. Зрабіўшы некалькі такіх практыкаваньняў (20—30 за лета), усе чырвонаармейцы няпрыкметна для самых сябе атрымаюць навыкі ў справе выведкі рэк.

У часе купаньня чырвонаармейцы вучацца і атрымліваюць практыку ў перамаганьні яе ўплаў бяз вопраткі са зброяй і ў вопратцы са зброяй.

## В. ВЫВЕДКА ЛЕСУ.

### 25. Як праводзіцца выведка лесу.

Лес—добрае прыкрыцьцё для войск ад паветранага ворага, але той-жа лес можа і перашкаджаць руху сваіх войск і войск праціўніка. Лес можа быць выкарыстан для скрытага зближэньня з праціўнікам а таксама і для абароны. Лес зьяўляецца добрай абаронай ад танкаў праціўніка і палягчае пабудовы зага-

род па шляху праціўніка. У лесе стойкія газы трымаюцца больш. Нарэшце лес дае матэрыялы для пабудовы пераправаў, для ўмацаваньня позыцыі.

Чаго можна чакаць ад лесу і як яго выкарыстаць у баявых умовах—гэтага дазнаецца толькі выведка.

**26. На якія пытаньні павінен адказаць баец пры выведцы лесу.**

Пры выведцы лесу патрабуецца даць адказ на наступныя пытаньні:

1. Разьмер лесу.

2. Характар лесу (буйны лес ці дробналесьсе).

3. Пароды дрэў (лісьцяны, хвойны ці зьмешаны).

4. Колькі дарог праходзіць цераз лес, адкуль і куды?

5. Для якіх войск лес зьяўляецца праходным без дарог (адзінокія пехацінцы, адзінокія коньнікі, павозкі, аўтомобілі, танкі?)

6. Закрывае лес ад паветранага назіраньня ці не?

7. Ці ёсьць у лесе сухадолы, балота, будынкі?

8. Ці можа лес затрудніць рух конных і асабліва павозак сам па сабе і ці ёсьць у ім загарад (завалы на дарогах, хімічныя пробкі і г. д.)

Накіроўваючыся на выведку лесу, выведчык павінен мець гэты пералік пытаньняў. Адказ на іх можна даваць часамі толькі простым падкрэсьліваньнем слоў, напрыклад у 3-ім пытаньні падкрэсьліць слова *„хвойны"* у пятым—слова *„павозкі"* і г. д.

## Г. ВЫВЕДКА НАСЕЛЬНЫХ ПУНКТАЎ.

### 27. Навошта патрэбны выведкі насельных пунктаў.

Насельныя пункты даюць войскам укрыцьцё ад паветранага назіраньня і абарону ад дрэннага надвор'я ці холаду, а таксама дровы і ваду. У насельных пунктах войскі могуць атрымаць дапамогу ў снабжэньні гароднінай, фуражом, мясам, мукой, выпечкай хлеба, падводамі і рабочай сілай. У некаторых выпадках насельны пункт, г. зн. яго будынкі, мо-

гуць даць абарону і ад куль ворага, могуць быць выкарыстаны, як баявое ўкрыцьцё.

Вельмі важна ўлічыць палітычныя настроі насельніцтва.

Мэтай выведкі насельных пунктаў зьяўляецца зьбіраньне зьвестак, якія дапамогуць нашым войскам лепш выкарыстаць насельны пункт для сваіх мэт.

У залежнасьці ад таго, з якога боку цікавіць нас насельны пункт, вядзецца і яго выведка.

### 28. Пытаньні пры выведцы насельнага пункту для расквартараваньня войск.

1. Колькасьць двароў.

2. Колькасьць калодзежаў, якая вада і колькі ведзер можа даць кожны калодзеж у суткі (прыблізна).

3. Колькі сараяў можа служыць для разьмяшчэньня людзей і коняй?

4. Ці няма ў паселішчы сярод людзей і коняй захворваньняў, а калі ёсьць, дык якія (асабліва трэба асьцерагацца тыфусаў, сапу, сібірскай язвы)?

5. Будынкі, прыдатныя для разьмяшчэньня

лазарэтаў, шпіталяў (вялікія дамы, школы, больніцы, тэатры, памешчыцкія дамы)?

6. Ці ёсьць салома ( у якасьці подсьцілу)?

7. Ці ёсьць каля хат сады (як укрыцьцё ад паветранай выведкі праціўніка)?

**29. Пытаньні пры выведцы насельнага пункту з гаспадарчай мэтай.**

1. Ці ёсьць сена, салома і колькі іх?
2. Ці ёсьць авёс, ячмень?
3. Ці ёсьць хлеб і мяса?
4. Ці ёсьць запасы мукі?
5. Ці ёсьць запасы жыта і пшаніцы і колькі?
6. Ці ёсьць немалочанае збожжа і колькі яго?
7. Ці ёсьць млыны і хлебапякарні?
8. Колькасьць буйной і дробнай жывёлы?
9. Колькасьць коняй і павозак?
10. Колькі кузьняў і кавалёў?
11. Колькі працаздольнага насельніцтва?
12. Забясьпечанасьць насельніцтва рыдлёўкамі, сякерамі і піламі.
13. Ці ёсьць саўгас, колгас, іх магутнасьць і якія запасы ў іх мукі, збожжа, фуражу?

14. Ці ёсьць грамадзкі запас збожжа (пасеўныя матэрыялы)?

**30. Політычная выведка насельніцтва.**

Калі выведчыку даручана зрабіць політычную выведку насельніцтва, то ён павінен даць адказ на наступныя пытаньні:

1. Ці шмат у паселішчы прадстаўнікоў варожых нам кляс (памешчыкі, купцы, папы і г. д.)

2. Колькасьць комуністаў, комсамольцаў, колгасьнікаў, батракоў, чырвоных партызан, савецкіх служачых, былых чырвонаармейцаў?

3. Дзе жывуць сем'і комуністаў і беднякоў і якое іх матэрыяльнае становішча?

4. Хто зьяўляецца важаком варожых нам груп насельніцтва?

5. Адносіны насельніцтва да рэлігіі і ступень уплыву на яго папоў, ксяндзоў і др.

6. Ці няма ў ваколіцах белых банд, дэзэртыраў, зялёных або нашых партызанскіх атрадаў?

7. Каму ў масе спачувае насельніцтва?

8. Хто з пастароньніх жыве ў паселішчы. Ці даўно ён пасяліўся і чым займаецца?

9. Высьветліць, як праціўнік адносіўся да насельніцтва, ці ня было біцьця сялян розгамі, гвалту, расстрэлаў і г. д.

10. Што ў насельным пункце ведаюць аб праціўніку, дзе ён, колькі яго, у якім ён настроі—напалоханы ці бесклапотны, як абыходзіцца з мясцовым насельніцтвам, што гавораць салдаты праціўніка пра вайну; ці не адчуваюць яны нястачы ў харчу; ці раздаваў праціўнік газэты і лістоўкі насельніцтву; калі раздаваў, дык сабраць іх і г. д.)?

## 31. Пытаньне пры выведцы насельнага пункту з боку абароны

Насельныя пункты, асабліва зімой, адыгрывалі і будуць адыгрываць вялікую ролю. За іх у часе вайны заўсёды будуць баі, прычым само паселішча можа быць выкарыстана для абароны. Ацэньваючы насельны пункт з гэтага боку, неабходна мець адказы на наступныя пытаньні:

1. Месца распалажэньня насельнага пункту (на ўзвышшы, на роўнай мясцовасьці ці ў лагчыне).

2. Ці ёсьць мураваныя будынкі і агарожы,

якія могуць быць апорнымі пунктамі пры абароне паселішча?

3. Якія месцы ў насельным пункце дазваляюць лёгка зрабіць перашкоды для руху бранявікоў і асабліва танкаў праціўніка?

4. Ці ёсьць сады і гароды, палягчаючыя абарону пункту пры пажары?

5. Ці ёсьць укрытыя позыцыі для артылерыі, назіральныя пункты і якія яны?

## 32. Хто і як праводзіць выведку насельных пунктаў.

Выведка насельных пунктаў робіцца адзіночнымі выведчыкамі, выведнымі дазорамі і больш буйнымі выведнымі групамі. Палітычная выведка вядзецца або спэцыяльна назначанымі асобамі, або тымі самымі выведчыкамі, якія выконваюць і іншыя задачы.

Асноўны спосаб выведкі, гэта—апытаньне мясцовых жыхароў і агляд.

Пры выведцы насельнага пункту трэба захоўваць наступныя правілы:

1. Набліжаючыся да насельнага пункту, датуль лічы яго занятым праціўнікам, пакуль не пераканаешся, што праціўніка там няма.

2. Раней, чым увайсьці ў насельны пункт, некаторы час назірай за ім скрытна, каб высьветліць, ці не заняты ён праціўнікам.

3. Набліжайся да насельнага пункту скрытна.

4. Наблізіўшыся да насельнага пункту, выберы хату найбядней і, увайшоўшы ў яе асьцярожна распытай жыльцоў, ці няма ў вёсцы праціўніка і наогул атрымай адказы на пытаньні, якія цябе цікавяць у сэнсе выведкі.

5. Уваходзь у насельны пункт у адзіночку толькі ў тым выпадку, калі напэўна ведаеш, што насельніцтва спачувальна адносіцца да Чырвонай арміі.

6. Калі ты ў дазоры, дык памятай, што дазор вядзе выведку ня толькі апытаньнем мясцовых жыхароў, але і правярае атрыманыя зьвесткі, уважліва аглядаючы насельны пункт.

Перад аглядам насельнага пункту дазорам карысна браць з сабою правамжатага (скрыты заложнік) з асоб найбольш уплывавых у насельным пункце.

Праходзячы цераз вёску, дазор рухаецца двума расьцягнутымі ланцужкамі з кожнага боку вуліцы па адным. Кожны дазорны назірае за вокнамі і дзьвярмі на процілеглым баку вуліцы.

Старшы ў дазоры, знаходзячыся ў яго сярэдзіне, старанна аглядае суседнія вуліцы з іх перакрыжаваньня. Адзін з дазорных захо-



Мал. 18. Агляд вёскі дазорам.

дзіць на некаторыя двары, якія яму здаюцца падазронымі, і аглядае іх.

Пры аглядзе паасобных хутароў або паасобных хат, дзе можна спадзявацца сустрэць ворага, дазор ужывае наступны спосаб: спачатку ўвесь дазор скрытна назірае за хутарам,

потым адзін з дазорных ідзе на хутар, асьцярожна пасоўваючыся па найбольш захаваным шляху. Набліжаючыся да дзьвярэй, ён не павінен ісьці да апошняй проста, а туліцца да сьцяны з вінтоўкай і гранатай напагатове. Рэшта байцоў з дазору назірае з добра захаванай позыцыі, гатовая ў любы момант адкрыць агонь для абароны свайго выведчыка, які аглядае хату. Ня трэба аднаму ўваходзіць у хату. Калі патрэбна зазірнуць у акно ці падслухаць каля яго, трэба асьцярожна падпаўзьці ўздоўж сьцяны да акна. Уначы, заглядваючы ў акно, ня трэба набліжаць твар да шыбы.

Няма такога лягеру, які-б не акружалі дзясяткі вёсак. Няма такога чырвонаармейца, які-б не наведаў хоць бліжэйшай вёскі.

Калі гэтыя наведваньні ўвесьці ў норму, калі іх выкарыстаць для практыкі ў выведцы насельных пунктаў, дык Чырвоная армія ліквідуе найбольш цяжкае месца ў выведцы— выведку чырвонаармейцамі насельных пунктаў. Атрыманьне ў мірны час зьвестак, пералічаны у § 29, 30, 31 не на шмат лягчэй, чым у ваенны час. Выведчык, які патрапіў у мірнай вучобе здабыць пры дапамозе мясцовых



Мал. 19. Агляд даз^о^рам паасобнага хутару (да §32 п. 6).

улад патрэбныя зьвесткі па выведцы насельных пунктаў, асабліва зьвесткі політычныя і гаспадарчыя (§ 30, 31), здолее выканаць такія-ж задачы і ў часе вайны.

У гэтай галіне падрыхтоўкі найлягчэй дзейнічаць наступным чынам. Камандзір загадзя цераз мясцовыя органы ўлады атрымлівае патрэбныя зьвесткі аб насельніцтве і потым дае выведчыкам задачу сабраць тыя-ж зьвесткі, але не зьвяртаючыся да ўлады. Наколькі зьвесткі супадуць,—гэта і будзе служыць паказчыкам мастацтва выведчыка ў вядзеньні політычнай і гаспадарчай выведкі.

## Д. ВЫВЕДКА ПОЗЫЦЫЙ ПРАЦІЎНІКА.

### 33. Што трэба ведаць аб позыцыі праціўніка.

Выведка позыцыі праціўніка патрэбна для таго, каб азначыць наколькі гэтая позыцыя зьяўляецца моцнай, якімі загародамі яна ўмацавана (драты, засекі і г. д.), як разьмешчаны гэтыя загароды, дзе праціўнік паставіў свае куляметы, якія маюцца подступы к позыцыі.

У адпаведнасьці з гэтым выведчык павінен даць адказ на наступныя пытаньні.

1. Ці ёсьць дротавыя загароды і колькі іх радоў?

2. Ці ёсьць у дротавых загародах праходы і дзе найлягчэй і скрытна ад праціўніка іх зрабіць?

3. Дзе разьмешчаны куляметы праціўніка— з пярэдняга краю, ці ў глыбіні позыцыі?

4. Дзе назіральныя пункты праціўніка?

5. Дзе яго рэзэрвы?

6. Ці ўжыў праціўнік стойкія атрутныя матэрыі (АМ) для ўзмацненьня абароны?

7. У праціўніка толькі адны акопы, ці ёсьць хавальнікі ад артылярыйскага агню і ходы зносін?

## 34. Хто і як вядзе выведку позыцый праціўніка

Назіраньне, непасрэдны агляд выведчыкаў, захоп палонных і, нарэшце, бой—вось сродкі выведкі позыцый праціўніка.

Самы лёгкі спосаб выведкі позыцый праціўніка, гэта—назіраньне. Уважліва і цярпліва назіраючы праціўніка, знаючы ваенныя адзнакі, можна здабыць шмат неабходных зьвестак аб разьмяшчэньні праціўніка і аб яго ўмацаваньнях.

Аднак, назіраньне здалёк не заўсёды мае посьпех.

Дрот можа быць захован у зморшчках мясцовасьці, пах АМ можа і не даходзіць да нашых позыцый, а кулямёты праціўніка ў чаканьні нашай атакі могуць прытаіцца і да пары да часу не выяўляць сябе. У такіх выпадках адзіночныя выведчыкі і выведныя дазоры, прыкрываючыся мясцовасьцю або цемнатой, набліжаюцца да ўмацаваньня ворага і дапаўняюць тыя зьвесткі, якія атрыманы назіраньнем.

Яшчэ больш зьвестак можна атрымаць ад палоннага. Аднак не заўсёды ўдасца няпрыкметна падкрасьціся да ўмацаваньняў праціўніка, або захваціць палоннага. У такіх выпадках застаецца яшчэ адзін верны і надзейны від выведкі—гэта выведка боем. Выведны дазор, робячы неспадзеўны напад на важны для праціўніка пункт, нямінуча выкліча з яго боку агонь кулямётаў, а можа і контратаку, і тым самым дапаможа нам выявіць і характар умацаваньняў, і месцы кулямётаў, і размяшчэньні рэзэрваў праціўніка.

Чым лепш будзе вызначан пункт для атакі пры выведцы, чым скрытней будзе падрых-

тоўка да нападу, чым неспадзеўней ён будзе, тым лягчэй і хутчэй будуць здабыты патрэбныя нам зьвесткі.

### 35. Як выявіць кулямёт і назіральныя пункты праціўніка.

Самы страшны вораг наступаючай пяхоты гэта—добра захованы кулямёт праціўніка. Ён можа выпусьціць 500 куль у мінуту ў твар наступаючаму аддзяленьню.

Але і ў кулямёта шмат моцных ворагаў: артылерыя дывізіённая, палкавая і батальённая, мінамёты, гранатамёты, буйнакалібравыя кулямёты, снайпэры (лепшыя стралкі) і, нарэшце, стралкі. Аднаго трапнага пападаньня ў кулямёт даволі для таго, каб ён выйшаў са строю. Вось чаму для яго звычайна выбіраецца месца, добра захованае ад назіраньня. І вось чаму найпершая задача назіральніка і выведчыка заключаецца ў тым, каб выявіць месцы разьмяшчэньня кулямётаў у ворага, указаць іх сваёй артылерыі, сваім гранатамётам і за тым найхутчэй абясшкодзіць кулямёты праціўніка.

Кулямёты праціўніка могуць разьмяшчацца на адкрытай позыцы, страляючы проста перад сабою і прыкрываючыся ад нашых назіральнікаў кусьцікамі, купінкамі, травой. Такі кулямёт выявіць параўнальна лёгка. Як толькі ён пачне страляць, наш назіральнік заўважыць або пыл перад дулам кулямёта, або дымавы туман, або пару ад закіпаючай вады.

Уначы кулямёт выявіцца па мігаючых успышках агенчыка перад яго дулам.

Уважлівы назіральнік можа выявіць кулямёт на адкрытай позыцыі і да адкрыцьця ім агню. За кусьцікам за узгорачкам, за капою назіральнік заўважыў групу праціўніка з 2-3 чалавек. Кожны чырвонаармеец ведае, што стралкам у часе бою не дазваляецца зьбірацца ў групкі. З гэтага ён зробіць вывад, што выяўленая ім групка сабралася з прычыны неабходнасьці сумеснай работы і групуецца або каля кулямёта, або на назіральным пункце. Пакуль яшчэ цяжка вырашыць, што тут такое, але вось, працягваючы назіраньне, выведчык заўважыў, што да гэтае групкі падышоў чалавек. Цераз некалькі мінут ён пайшоў у тыл. Пазьней туды-ж прыбег сабака. Назіральнік робіць пэўны вывад, што выяўленая групка

можа быць толькі назіральным пунктам працiўніка. Заўважыўшы яго і паведаміўшы аб гэтым свайго камандзіра, выведчык будзе працягваць пошукі кулямёта ў новым месцы і ўсё-ткі яго знойдзе.

Больш цяжка знайсьці такія кулямёты, з якіх адзін, знаходзячыся супроць нас, па нас не страляе, а прыкрыўшыся ад нашага назіраньня за непрабівальным бугром зямлі або домам, павядзе агонь па нашых суседзях, у той час як другі кулямёт, стоячы супроць нашых суседзяў, будзе страляць у нас. Найчасьцей так і будуць разьмяшчацца кулямёты працiўніка на вайне. Выявіць такія кулямёты можа толькі выведчык, які прывучан глядзець і назіраць мясцовасьць ня толькі перад сабою, але і перад суседзямі.

Кожны выведчык павінен памятаць, што ўсякі кулямёт, апроч асноўнай позыцыі, мае яшчэ адну або дзьве ў запасе. Пад абстрэлам нашай артылерыі або кулямётаў кулеметчыкі працiўніка зразумеюць, што месца іх кулямёта выяўлена, і пастараюцца няпрыкметна перабрацца на запасную позыцыю. Толькі выведчык, які ўважліва назірае выяўленыя кулямёты, у час заўважыць момант такога пераходу

кулямёта праціўніка на новую позыцыю і выявіць яе. Калі-ж ён дасьць магчымасьць кулямёту ворага перайсьці на новую позыцыю няпрыкметна то прыдзецца зноў шукаць гэты кулямёт, чакаючы, пакуль ён ясна ня выявіць сябе стралянінай.

Вельмі цяжка выведчыку выявіць кулямёт, які пастаўлен на закрытай позыцыі. Такія кулямёты разьмяшчаюцца дзе-небудзь за ўзгоркам або ў лагчыне і вядуць як-бы перакідны агонь з-за гэтага прыкрыцьця. Месца такога кулямёта можна адзначыць па гуку або з самалёта. Аднак змагацца з агнём такіх кулямётаў можна і ня бачачы іх. Для гэтага даволі толькі выявіць іхназіральнікаў, зьнішчыць іх і тым самым быццам асьляпіць кулямёты ворага. Кожны выведчык, шукаючы месца кулямётаў, павінен таксама шукаць і назіральныя пункты праціўніка.

Кожны стралок яшчэ ў мірны час павінен навучыцца знаходзіць кулямёты ворага. На ротных або атрадных занятках, кожны чырвонаармеец павінен імкнуцца як мага больш выявіць кулямётаў „ворага“ (мал. 20).

У канцы заняткаў, даведаўшыся колькі было кулямётаў праціўніка, і падлічыўшы,




Мал. 20. Дзе шукаць кулямёты ворага.

колькі з іх было выяўлена выведкай праціўніка, мы будзем знаць, наколькі нашы кулямётчыкі ўмеюць выбіраць захованыя месцы і наколькі мы сумеем іх выяўляць.

## V. ДЗЕЯНЬНІ ВЫВЕДЧЫКАЎ ПРЫ СУСТРЭЧЫ З ВОРАГАМ.

**36. Усіх сустрэчных лічы праціўнікам, покуль не пераканаешся, што гэта свой.**

1. Памятай, што праціўнік хіцёр. Каб захапіць цябе ў палон або неспадзеўна на цябе напасьці, ён будзе старацца ашукаць цябе Для гэтага ён можа апрануцца селянінам або чырвонаармейцам.

2. Не забывай, што для апазнаваньня сваіх служаць *водклікі і пропуск*, якія павінны быць вядомы кожнаму чырвонаармейцу, накіраванаму ў выведку.

3. Стыкнуўшыся неспадзеўна з незнаёмым чалавекам у чырвонаармейскай форме, вазьмі яго на мушку і тут-жа запытай: „Што пропуск?“ Калі ён правільна скажа пропуск, дык і ты абавязан адказаць яму на запытаньне: „Што водклік?“

4. Пытаньні і адказы задавай па-ціху, каб іх не падслухаў прытоены дзе-небудзь працоўнік.

5. Калі сустрэчны чалавек на запытаньне „што пропуск“ замест адказу кінецца бегчы, лічы яго ворагам і страляй у ногі, каб раніць і ўзяць у палон.

6. Заўважыўшы адзіночнага праціўніка, які ідзе табе насустрач, схавайся і, падпусьціўшы яго блізка, прыцэлься іскамандуй: „Кінь зброю“ і вазьмі яго ў палон. Яшчэ лепш, калі можна акружыць ворага ўсім дазорам і супольнымі сіламі неспадзеўна накінуцца на яго і, абяззброіўшы, забраць у палон бяз шуму і страляніны.

7. Асабліва трэба старацца злавіць жывым афіцэра праціўніка: ён больш ведае і больш раскажа аб сілах і намерах праціўніка.

8. Калі ты ў складзе дазору, дык памятай, што яго асноўная задача—выведка, а ня бой; а таму сустрэўшы больш моцнага праціўніка і ня маючы магчымасьці неспадзеўным нападам зьнішчыць яго, лепш ухіліцца ад бою, працягваючы назіраньне і падсьцерагаючы адзінак для захопу ў палон.

9. Мей на ўвазе, што конна, на аўтомобілі або мотоцыклі найчасьцей пасылаюцца загады. *Адзін палонны, захвачаны з загадам, дае больш зьвестак, чым сотня простых радавых салдат праціўніка.*



Мал. 21. Спосаб захопу ў палон бранявіка ворага.

10. Адзіночнага коннага і асабліва мотоцыкль або аўтомобіль лепш захваціць з дапамогай засады або лавушкі.

Вось прыклад. Дазор рухаецца ўздоўж дарогі і здалёк бачыць, як з гары спускаецца бранявік праціўніка. Дазор не пасьпеў зрабіць лавушку, бранявік ворага прайшоў у тыл, але дазор ведае, што ён вернецца назад, калі яго ня зловяць у нашым тыле. Дазорныя маюць пры сабе рыдлёўкі. Яны ўзяліся за работу і праз 10 мінут упоперак

дарогі выкапалі канаву ў паўмэтра глыбіні і шырыні.

Канаву прыкрылі гальлём, саломай, закідалі зямлёй, і пылам. Ледзь скончылі работу, як пачуўся шум мотора. Гэта бранявік ворага вяртаецца з выведкі. Знаючы дарогу, ён ідзе без асаблівай асьцярожнасьці і таму не заўважыў скрытай канавы, наляцеў на яе, перакуліўся і стаў. Каманда паспрабавала выскачыць з бранявіка, але трапныя кулі выведчыкаў улажылі тых, хто выскачыў, на месьце, а ручная граната пераканала рэшту падняць белы флаг і здацца.

Яшчэ лягчэй захваціць бранявік праціўніка, калі на яго шляху ёсьць масток. Даволі падпілаваць палі або выняць некалькі дошчак з насьцілу; прыкрыўшы дзірку тоненькімі дошчачкамі—і бранявік на мосьце праваліцца, пасьля чаго яго лёгка забраць голымі рукамі (мал. 21 і 22).

Але вось па той-жа дарозе ідзе ўжо не бранявік, а лёгкавы аўтомобіль з офіцэрам. Відаць апошні вязе загад, а можа праводзіць выведку дарог для сваіх войск. Нашы выведчыкі прыталіліся каля дарогі ў кустох і чакаюць. Машына наблізілася. Адзін з вывед-

чыкаў, выскачыўшы на дарогу, крыкнуў: „Стой“! Аднак, шофэр не паслухаў, а прыбавіў ход яшчэ больш. Трапныя кулі выведчыкаў, накіраваныя ў мотор, спынілі машыну. Офіцэр кінуўся ўцякаць, на-бягу адстрэльваючыся, але далёка не адбег. Куля выведчыка



Мал. 22. Спосаб захопу ў палон легкавога аўтомабілю. Канава перагароджвае аўтомабілю шлях.

дагнала. Агледзілі выведчыкі забітага ворага і знайшлі пры ім загад. У апошнім сказана аб тым, што праціўнік зьбіраецца рушыць у абход нашай дывізіі. Цяпер гэтага загаду вораг не атрымае ў час, а нашы войскі, папярэджаныя аб яго намерах, падрыхтуюцца і наладзяць яму лавушку. Калі потым пацікавяцца, чаму праціўніка так лёгка разьбілі, дык выявіцца, што прычына гэтага—добрая работа выведчыкаў. Адзін выведны дазор,

які складаецца з адважных, разьвітых і дасьціпных выведчыкаў-стралкоў, можа зрабіць надта шмат.

Яшчэ лягчэй захваціць у палон мотоцыкль, адзіночнага коннага або вэлёсыпэдыста. З гэтай задачай лёгка справіцца і адзіночны выведчык.

11. Пры захваце палоннага адбяры ў яго перш зброю, потым забяры ўсе паперы аж да асабістай перапіскі ўключна; памятай, што праціўнік паспрабуе зьнішчыць гэтыя дакуманты, і не дапускай яго зрабіць гэта.

12. Адабранную ў палоннага або ўзятую ў забітага ворага перапіску наскора перагледзі, правер, ці няма там загаду. *Усякі загад павінен быць зараз-жа дастаўлен у штаб, або хоць твайму камандзіру.*

13. Калі праціунік заўважыць цябе аднаго і пачне прасьледваць, дык трымай сябе так як быццам ты гэтага не заўважаеш, усімі способамі паказваючы праціўніку нібы ты не адзін, падавай знакі, быццам ты клічаш таварышоў, страляй з розных месц і г. д.

14. Калі ты, будучы ў выведцы, сам трапіш у засаду або неспадзеўна стыкнешся з больш моцным ворагам, дык перш за ўсё стрэламі

папярэдзь аб небясьпецы сваіх таварышоў, а сам старайся, адстрэльваючыся, шпарка адыйсьці ў бліжэйшы лес, хмызьняк, роў або проста ў поле.

15. Калі ў засаду трапіў таварыш, дапамажы яму агнём, а калі можаш, то і штыхом

16. Калі сваячасова выявіш большыя сілы ў ворага, а сам ня будзеш выяўлен, працягвай скрытна назіраць за імі і безадкладна паведамі аб праціўніку свайго камандзіра.

17. Калі праціўнік выявіў цябе і прасьледуе, адыходзь так, каб навесьці яго на нашы войскі і там загубіць яго.

18. Трапіўшы пад выпадковы абстрэл упоблізу разьмяшчэньня праціўніка, не адказвай на яго агонь, пакуль не пераканаешся, што вораг страляе па табе і што толькі адстрэльваючыся ты выратуешся ад захвату ў палон.

## VI. АБ ДАНЯСЕНЬНЯХ.

### 37. Выведка і данясеньні.

**Здабыць зьвесткі аб праціўніку, аб мясцовасьці і насельніцтве—гэта значыць зрабіць толькі палову справы. Застаецца яшчэ другая, ня менш важная, работа. Гэта напісаць**

і ўнайкарацейшы тэрмін даставіць данясеньне куды трэба. Самыя важныя зьвесткі нічога ня варты, калі яны будуць атрыманы са спазьненьнем.

Ідучы ў выведку, добра мець пры сабе „палявую кніжку выведчыка“, каб пісаць данясеньні. А калі такой кніжкі няма, то папрасі свайго камандзіра напісаць на кавалачку паперы тыя пытаньні, на якія ты павінен даць адказ у данясеньні. Вось узор данясеньня:

Каму . . . . . . . . . . . . . .

Адкуль . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

№ . . . . . . Карта . . . . . . . . . . . $\frac{\text{вяр.}}{\text{км}}$ ў $\frac{\text{дз.}}{\text{см}}$

193 . . г. . . . . . . . .мес. . . . . . . .гадз. . . . мін.

1. Дзе і калі заўважыў праціўніка. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2 Які праціўнік (пяхота, кавалерыя, артылерыйскія танкі, бранявікі і г. д.) і колькі яго . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

3 Што праціўнік робіць (рабіў) . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

4. Што робіш сам і што мяркуеш рабіць далей . . .

Увага: Калі ты сам праціўніка ня бачыў, а толькі чуў, напішы на адвароце: дзе, калі, ад каго чуў.

Расьпіска ў атрыманьні

№. . . . . . . атрымаў „ . . . . " . . . . . 193 . . . . г.

у „ . . . . "гадз. „ . . . . " мін.

Подпіс . . . . . . . . . . . . . . . .

Накіроўваючыся на выведку, ракі, лесу, вёскі, дарогі запытай камандзіра, на якія пытаньні ён патрабуе адказу.

Памятай, што і без дапамогі ты здолееш напісаць данясеньне, адказваючы на пытаньні якія зьмешчаны:

па выведцы ракі ў § 21;

па выведцы лесу ў § 26;

па выведцы дарог у § 20;

па выведцы позыцый у § 33;

па выведцы насельніцтва ў § 28, 29, 30, 31.

Як мага часьцей практыкуйся ў пісаньні данясеньняў.

## 38. Як навучыцца пісаць данясеньні

Ніякая навука, ніякая славеснасьць не навучаць цябе пісаць данясеньні, калі ты сам ня будзеш практыкавацца ў гэтым. Як гэта зрабіць? У кожнай роце ёсьць скрынка з пяском. Абазнач на ёй праціўніка (дазор, кулямёт, роту ў калёне і г. д.) і пасьля гэтага ўяві

сябе выведчыка, які выявіў праціўніка, і напішы аб ім данясеньне. Выдаліўшы са скрынкі абазначанага праціўніка, прачытай свайму таварышу напісанае табою данясеньне і папрасі яго на падставе прачытанага паказаць на скрынцы з пяском праціўніка, аб якім ты напісаў данясеньне. Калі таварыш знойдзе месцаразьмяшчэньне праціўніка, згодна твайму данясеньню, значыць апошняе было табою напісана добра. Калі-ж у абазначэньні месцаразьмяшчэньня праціўніка ня будзе дакладнасьці, дык гэта пакажа табе самому тваю памылку.

Калі ты сам ня можаш выявіць сваю памылку ў данясеньні, зьвярніся да камандзіра—ён табе дапаможа.

### 39. Памятай усё, аб чым даносіў.

Памятай, што ня ўсе твае данясеньні дойдуць у час,—некаторыя могуць страціцца. А таму, вярнуўшыся з выведкі, далажы свайму камандзіру ўсё, што ты бачыў, усё, аб чым даведаўся і аб чым даносіў і цераз каго пасылаў данясеньні.

Памятай, што важней за ўсё і ў тваім данясеньні і ў тваім дакладзе—гэта праўдзі-

васьць. Напісаўшы няпраўду, ты штурхнеш свайго камандзіра на няправільнае вырашэньне задачы і гэтым загубіш сваю часьць.

## VII. АСАБЛІВА ПАМЯТАЙ З УСЯГО ПРАЧЫТАНАГА.

1. Кожны чырвонаармеец павінен быць выведчыкам. Быць выведчыкам—гэта значыць, што ў любую пару году, у любы час дня і ночы, пры выкананьні любога заданьня абавязан зьбіраць зьвесткі аб праціўніку, мясцовасьці і насельніцтве і аб усім дакладваць свайму камандзіру.

Памятай, што апроч гэтага ты можаш атрымаць і асобную задачу па выведцы, якую ты павінен выканаць сам або ў складзе дазору.

2. Атрымаўшы задачу па выведцы, усьвядомь яе, адказаўшы самаму сабе на наступныя пытаньні:

а) Што і дзе табе даручана выглядзець і на што зьвяртаць асаблівую ўвагу?

б) дзе прыблізна знаходзіцца наша выведка і ахаваньне і што вядома аб праціўніку?

в) у якім напрамку табе ісьці і куды дайсьці?

г) да якога часу весьці выведку, куды і калі вяртацца?

д) каму і куды пасылаць данясеньні?

*Калі ты ня можаш адказаць хоць на адно з гэтых пытаньняў, значыць ты не ўсьвядоміў сабе задачы і абавязан зьвярнуцца да свайго камандзіра з просьбай дапамагчы таде разабрацца ў ёй.*

**3. Перад адыходам у выведку запытайся ў свайго камандзіра, што для яго важней— ці скрытнасьць руху, ці шпаркасьць выкананьня задачы.**

Калі важней шпаркасьць, дык дзейнічай як мага хутчэй, але ўсё-такі не забывайся аб спосабах перасьцярогі і ў руху і ў назіраньні.

**4. Назіраючы за ворагам, сам сябе трымай так, як быццам і ты знаходзішся пад назіраньнем ворага.**

Выбірай для назіраньня такое месца, адкуль ты бачыш ворага, а ён цябе бачыць ня можа. Як гэта зрабіць—прачытай на стар. 6.

**5. Навучыся паводле ваенных адзнак азначаць, дзе праціўнік, колькі яго і што ён робіць (пар. 9).**

6. Яшчэ ў мірны час навучыся апранацца і прыганяць знаражэньне так, каб рабіць для праціўніка больш цяжкім выявіць цябе.

7. Памятай, што працiўнiк лягчэй за ўсё можа выявiць выведчыка ў той час, калi выведчык перасоўваецца з аднаго пункту назiраньня на другi. Навучыся таксама добра намячаць шлях руху i так рухацца, каб вораг цябе ў часе руху выявiць ня мог. Як гэта зрабiць—прачытай.

8. Памятай, што заблудзiцца ў часе выведкi—гэта значыць рызыкаваць i самому загiнуць, i задачу сваю ня выканаць. Iдучы ў выведку, заўваж у якiм кiрунку iсьцi i ў якiм кiрунку вяртацца. Пройдзены шлях добра заўважай, нават дзейнiчаючы ў складзе дазору, каб самому знайсьцi дарогу назад, калi цябе пашлюць з данясеньнем.

9. Выходзячы для выведкi ўначы, памятай, што працiўнiк пiльна сочыць за ўсiмi дарогамi. Рухаючыся без дарог з захаваньнем спосабаў скрытнасьцi, практычнаму выведчыку самую цяжкую задачу лягчэй выканаць уначы, чым удзень самую лёгкаю. Непрактычны-ж выведчык уначы на першай сотнi крокаў саб'ецца з дарогi i задачы ня выканае.

У працiўнiка ёсьць ня толькi вочы, але i вушы. А таму, знаходзячыся ў выведцы, гавары як найменш, часьцей карыстайся сыгна-

ламі і ўмоўнымі знакамі. Навучыся на практыцы ўжываць усе сыгналы, пералічаныя ў § 18, а накіроўваючыся ў выведку, умоўся з таварышам, якім сыгналам будзеш карыстацца.

10. Калі атрымаеш задачу правесьці выведку дарог, лесу, ракі, вёскі і позыцыі праціўніка, знайдзі, паводле зьместу, у канцы кніжкі адпаведны параграф, прачытай, на якія пытаньні ты павінен даць адказ, і спытайся ў камандзіра, на якія з гэтых пытаньняў трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу і якіх пытаньняў можна не закранаць.

11. Выконваючы любую задачу ў выведцы, адначасова вядзі і палітычную выведку праціўніка і мясцовага насельніцтва, хоць камандзір гэтай задачы і ня ставіў.

12. Пры выведцы праціўніка які абараняецца, твой найпершы абавязак — азначыць месца разьмяшчэньня кулямётаў, гармат і назіральных пунктаў праціўніка.

13. Пры выкананьні любой задачы старайся захваціць палонных. Памятай, што гэта найлепшы спосаб выведаць зьвесткі аб праціўніку. Асабліва старайся захваціць у палон афіцэра. Захваціўшы-ж палонага, адбяры ад

яго ўсе папery, недапусьціўшы іх зьні шчэньня.

14. Забірай у забітых дакуманты, зрываючы адначасова з іх пагоны і пятліцы, бо паводле іх можна даведацца, якой часьці забіты, якога роду войск ён быў. Памятай, што, *ўсе гэтыя зьвесткі камандзіру патрэбны для перамогі над ворагам.*

15. Памятай, што ў выведцы табе прыдзецца часта сустракацца з бранявікамі і танкамі праціўніка. Не ўцякай ад іх, памятай, што куля шпарчэй за цябе—дагодніць. Найлепшы спосаб абароны ад бранявіка і танкаў у выведцы — гэта маскіроўка; памятай што танк зьяўляецца глухім і паўсьляпым; любая купінка, любая ямка або кусьцік схаваюць ад танка. Знаходзячыся за дрэвам таўсьцей чатырох вяршкоў або за канавай шырынёю і глыбінёю ў адзін мэтр, ты зьяўляешся недасяжным для танка.

Памятай, што з хітрасьцю і розумам ты выратуешся ня толькі ад танка і бранявіка, але і іх саміх загубіш.

16. **Не забывай у выведцы аб узаемным выратаваньні.**

Яно ў выведцы патрэбна больш, чым дзе-

небудзь у іншым месцы. Бачачы небясьпеку, пагражаючую таварышу па выведцы, абарані яго, хоць-бы з рызыкай для свайго жыцьця. Раненых ня кідай. Калі няма сілы несьці забітага, дык схавай яго, папярэдне зьняўшы пятліцы і забраўшы ўсе дакуманты.

17. **Памятай, што самыя важныя зьвесткі аб праціўніку нічога ня варты, калі ты спозьнішся перадаць іх сваім войскам.**

Для паскарэньня складаньня данясеньняў, накіроўваючыся ў выведку, вазьмі з сабою гатовы блянк данясеньня (§ 37). Калі-ж гатовага блянку няма, дык напішы яго сам. Коньніца, а асабліва танкі рухаюцца шпарчэй твайго данясеньня, пасланага пеша. Пры зьяўленьні такога праціўніка папярэдзь свае войскі стралянінай або іншым умоўным знакам (ракетай, узрыў ручной гранаты і г. д.).

18. **Не прабуй завучваць чаго-небудзь з гэтай кніжкі на памяць. Памятай, што толькі прароблене табой на практыцы ў часе вучобы ты здолееш зрабіць і на манэўрах і ў баі. На гэту кніжку глядзі як на дапаможнік у падрыхтоўцы да вучобы ў полі як на даведнік на манэўрах і ў баі ў часе выведкі.**

---

## Зьмест

